МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

**№ 3** (155)
**сакавік 2015**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:





ВІНШАВАННІ

## ВІНШУЕМ БАРЫСА КІТА СА 105-ГОДДЗЕМ!

6-га красавіка выдатны юбілей - 105-годдзе - спраўляе слынны беларус, сусветна вядомы вучоны Барыс Кіт.



Яго жыццё вялікае ва ўсіх сэнсах, і мы схіляем галаў перад тым, колькі ўсяго здолеў перажыць Барыс Уладзіміравіч і колькі зрабіць для суайчыннікаў, для Беларусі, для сусветнай навукі. І пры гэтым - а імаверна і дзякуючы гэтаму! - спадара Барыса адзначае заўсёдны аптымізм, дабрыня, цеплыня, адкрытасць да людзей і спагада. І мы зычым, каб гэтыя якасці яшчэ многія гады жывілі сэрца спадара Барыса, каб такімі ж пачуццямі яны адгукаліся ў сэрцах іншых людзей.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына“ ад усёй душы жадае Барысу Уладзіміравічу моцнага здароўя, гумору, сяброўскай увагі, а таксама чыстай і бязмежнай радасці!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“*

**Матэрыялы, якія да 105-годдзя шаноўнага юбіляра падрыхтавала Згуртаванне “Бацькаўшчына”, чытайце на сайце zbsb.org і ў наступным нумары бюлетэня: артыкул “Легенда касмічнага маштабу”, а таксама інтэрв’ю з даследчыцай Лідзіяй Савік, якая вярнула імя Барыса Кіта Беларусі.**

### ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў красавіку: **Алега Хаменку, Валянціну Аксак** (Беларусь), **Івонку Сурвіллу** (Канада), **Хведара Нюньку** (Літва), **Лену Глагоўскую, Наталлю Герасімюк** (Польшча), **Алега Рудакова, Сяргея Бандарэнку, Ніну Кабанаву** (Расія) і **Петруся Капчыка** (Украіна). Зычым шаноўным імяніннікам моцнага здароўя, спагады, жыццёвага імпэту і творчых здзяйсненняў!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# АЛЕГ РУДАКОЎ ПРА ЖЫЦЦЁ ІРКУЦКІХ "КРЫВІЧОЎ"

*На сядзібу Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" 27 сакавіка завітаў з далёкай Сібіры сябра нашай Рады Алег Рудакоў. Цягам некалькіх дзён, праведзеных у Беларусі, ён паспеў паўдзельнічаць у моўных курсах "Мова ТУТ", пабываць у Віцебску, а яшчэ прайсціся ў мінскім шэсці на Дзень Волі з плакатам, які запомніўся многім: "Беларуская мова – адзіная дзяржаўная!". Як пракаментаваў сам спадар Алег, гэта гучыць адразу і як напамін, і як заклік.*

*І ў Сібіры таксама, як многім з нашых чытачоў вядома, жыццё сябра Моладзевага клуба "Крывічы" Алега Рудакова пасіўным ніяк не назавеш: нездарма адным з яго першых словаў у гутарцы з намі было слова "актыў". Таму, бадай, усім будзе цікава даведацца, што спадар Алег распавёў пра сённяшняе жыццё, навіны і планы "Крывічоў".*



У Іркуцку ў нас ёсць два актывы – Моладзевага клуба "Крывічы" і Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, а яшчэ мора беларусаў, якія так ці іначай далучаюцца да іх дзейнасці, ходзяць на іх мерапрыемствы.

"Крывічы" заўсёды збіраюць на сваіх мерапрыемствах аўдыторыю не меншую за 50 чалавек. Сярод апошніх найбольш гучных мерапрыемстваў, у якіх мы ўдзельнічалі ў Іркуцку, – творчая сустрэча ў абласной бібліятэцы імя Малчанава-Сібірскага, куды нас запрасілі на пасяджэнне клуба "Родословие". У Іркуцку гэта даволі папулярны клуб. (*Дарэчы, у бібліятэку Згуртавання Алег Рудакоў прэзентаваў кнігу Таццяны Мунінай "Древо жизни рода Гринцевич", выдадзеную пры дапамозе гэтага клуба – Рэд.*) Наша сустрэча складалася з трох частак. Першая – лекторый, дзе я распавядаў пра тое, хто такія беларусы, як і чаму яны перасяляліся ў Прыбайкалле, хто са знакамітых беларусаў трапляў туды. У другім блоку былі спевы гурта "Крывічы", а трэці блок сустрэчы быў танцавальны.

Адно з апошніх нашых мерапрыемстваў – гэта Гуканне Вясны. У той дзень ляжаў снег, а на наступны дзень было +10, і рэзка пачало ўсё таяць – значыць, гукалі шчыра. Цяпер Моладзевы клуб "Крывічы" стараецца праводзіць выязныя мерапрыемствы, мы паставілі сабе такую мэту – вяртаць асноўныя абрадава-каляндарныя святы ў вёску.

Нядаўна ў нас праводзіўся семінар для настаўнікаў Іркуцка, дзе іх вырашылі пазнаёміць з некаторымі нацыянальнымі культурамі: татарскай, армянскай, бурацкай, рускай і беларускай. Наш клуб "Крывічы" запрасілі дапамагчы, мы і там паспявалі песні, трошкі танцаў паказалі. Дарэчы, арганізатары вельмі творча падышлі і далі яшчэ сваіх вучняў нам у дапамогу. У нас былі тры дзяўчынкі – усе тыповыя беларусачкі, і аказалася, што яны сапраўды нашчадкі беларусаў. Я быў прыемна здзіўлены. Калі ў шостых класах іх спыталі, хто жадае дапамагаць беларусам, то яны самі вызваліся. Мы з імі нават дамовіліся, каб яны прыходзілі да нас, цікавасць у іх ёсць. Так што жыццё ў нас вельмі насычанае, прыгожае, цікавае.

А цяпер пра нашыя планы! 5 красавіка адсвяткуем у Іркуцку Камаедзіцу, пастараемся як мага шырэй гэтае свята правесці. Таксама абавязкова правядзем у канцы красавіка справаздачны сход Моладзевага клуба "Крывічы" (ён праходзіць раз на тры гады), будзе абноўлены актыў. Але самае галоўнае, што нас чакае наперадзе, – гэта правесці круглы стол, прысвечаны 170-годдзю Яна Чэрскага. 3 траўня спаўняецца 170 гадоў з яго нараджэння. Я зараз езджу у Віцебск і ўжо звярнуўся да тамтэйшых навукоўцаў, таксама звязаўся з музеем у Валынцах, дзе Ян Чэрскі нарадзіўся, і мы дамовіліся, што гэты круглы стол мы правядзем у тры этапы: у Іркуцку, у Віцебску і ў Верхнядзвінскім раёне. У гэты музей на малой радзіме Чэрскага я пастараюся прывезці адбіткі рукапісаў Яна Чэрскага, якія захаваліся ў нас у Іркуцкім краязнаўчым музеі. Я спадзяюся, што гэтым круглым сталом мы дадзім нейкі штуршок справе стварэння музея Чэрскага ў Віцебску. Ад гэтай ідэі я не адыходжу: я жадаю стварыць гэты музей, паставіць помнік Яну Чэрскаму, а таксама зрабіць гарадамі-пабрацімамі Іркуцк і Віцебск.

*Цалкам матэрыял чытайце на zbsb.org*

НАВІНЫ "БУДЗЬМА!"

# УНІКАЛЬНАЯ МАПА "КРАІНА ЦМОКАЎ" АД КАМПАНІІ "БУДЗЬМА!" НА ЗАПРАЎКАХ А-100

Паводле 8 унікальных экспедыцый па Беларусі кампанія "Будзьма беларусамі!" зрабіла мапу "Краіна цмокаў", якую можна было атрымаць на запраўках А-100 у Мінску.

Матэрыялы вандровак былі падрабязна прадстаўленыя на спецыяльным сайце cmok.budzma.org. Затым больш за 80 населеных пунктаў і цікавостак, якія наведала экспедыцыя, былі нанесеныя на спадарожнікавую мапу.

"Асноўная ідэя мапы "Краіна Цмокаў" — прыцягнуць увагу да беларускай гісторыі і культуры, да нашай літаратуры і міфалогіі. Прадэманстраваць, што нашая культура — невычарпальная і багатая крыніца і для турызму, і для брэндынгу гарадоў. Мы выбралі Цмока — ён загадкавы і харызматычны, ён — непераможны асілак паводле нашых казак і легенд, — кажа каардынатарка кампаніі "Будзьма беларусамі!" Алена Макоўская. — Ну а вынікі пошукаў Цмока аказаліся настолькі цікавыя, што мы вырашылі ўвасобіць іх у мапе".




Дызайн распрацаваў Артур Вакараў (студыя "Адліга"), а тэкст склаў журналіст Глеб Лабадзенка, які разам з фатографам Аляксандрам "Таранцінам" Ждановічам праехаў дзеля гэтага па Беларусі больш за 7000 кіламетраў.

У сакавіку на ўсіх аўтазапраўках А-100 у Мінску можна было атрымаць унікальную мапу, выканаўшы 2 простыя ўмовы: звярнуцца да аператара па-беларуску і назваць пароль: "Беларусь — краіна Цмокаў!"

Для тых, каму не хапіла мапы, нагадваем, што яе можна спампаваць ці пабачыць у фармаце Google Maps тут: **http://cmok.budzma.org/node/95**.

*Паводле budzma.by*

# Аляксей Марачкін: бацька з вайны прывёз не швейную машынку, а рэпрадукцыі

***30 сакавіка мастак і кіраўнік Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з 2005 па 2009 гады Аляксей Марачкін адзначыў юбілей – 75-годдзе. Шчыра віншуем шаноўнага спадара Аляксея! Зычым многіх гадоў, поўных натхнення, радасці і творчага плёну!***

***Прапануем шаноўным чытачам урыўкі інтэрв'ю з юбілярам, якое падрыхтавала "Наша Ніва".***




**"Наша Ніва"**: Спадар Аляксей, нехта, відаць, паспеў павіншаваць Вас з юбілеем: у Вас жа дзве даты дня нараджэння.

**Аляксей Марачкін**: Паспелі. Я заўсёды тлумачу гэтую блытаніну. Сапраўдны мой дзень нараджэння — 30 сакавіка, "на Божага чалавека Ляксея нарадзіўся", як маці сказала. А калі я пайшоў у першы клас, ведаў толькі, што ў сакавіку, але не ведаў даты. Чамусьці дзясятка спадабалася. Так і з'явілася 10 сакавіка. І пачала "гуляць" у афіцыйных дакументах. А ў даведніках па мастацтве ўжо фігуруе 30 сакавіка.

Гэта ж было перад вайной. Бацька паехаў на заробкі. А калі па праўдзе казаць, ён уцякаў ад НКВД. У 1938 ці 1939 годзе яго хацелі паставіць старшынёй сельсавета. А нехта яму шапнуў, што папярэдняга старшыню арыштавалі. І сказалі: "Антон Мікалаевіч, бяры торбу, сухары і едзь куды далей".

**"НН"**: І як склаўся яго далейшы лёс?

**АМ**: Ён паехаў добраахвотна на Далёкі Усход. А вярнуўся ў 1941. Тады быў прызыў — і яго забралі на вайну. Быў на самай перадавой: параненых і забітых выносіў. Адзін раз быў лёгка паранены аскепкам у руку. Атрымаў ордэн баявога Чырвонага Сцяга.

**"НН"**: Кім былі бацькі?

**АМ**: Маці — Хадора Хролаўна, вясковая дзяўчына. Пісаць, чытаць не ўмела, але распісвацца навучылася. І грошы лічыла. А бацька — я ганаруся! — вясковы інтэлігент. Пасля вайны ён завочна скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і быў вясковым бібліятэкарам. І праз мае рукі заўсёды праходзілі кніжкі. Асабліва падабаўся часопіс "Огонёк", бо ў ім былі каляровыя ўкладышы з рэпрадукцыямі карцін расійскіх мастакоў. (…)

**"НН"**: Бацька — вясковы інтэлігент. Ён ухваліў Ваш выбар быць мастаком?

**АМ**: Казаў: "Ты, Ляксейка, гультай. Нічога не ўмееш — толькі маляваў бы". А я на замерзлых шыбах розныя ўзоры цвіком шкрабаў. Не памятаю, каб ён з вайны прывёз швейную машынку ці нешта такое, а прывёз ахапак паштовак. Як пасля высветлілася, гэта былі рэпрадукцыі з Дрэздэнскай галерэі, Луўра. Яму не было абыякава, што я малюю. Але я ўсё самастойна спасцігаў.

У нас на Магілёўшчыне мужыкі не гаварылі: "Намалюй мяне". Казалі: "Скрытыкуй". Бо пасля вайны дужа папулярны быў часопіс "Вожык", а ў ім — адны карыкатуры. І мяне запрашалі ў школьных альбо калгасных насценгазетах "скрытыкаваць" кагосьці. Але адзін раз мяне пабіў аднакласнік. "За што ты майго бацьку скрытыкаваў?" А ён быў п'яніца: намаляваў яго з бутэлькай. Гэта быў першы "ганарар".

Старэйшы хлопец з маёй школы, Вася Сталяроў, паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Мне былі цікавыя яго малюнкі, я яму свае паказваў. І гэта таксама паўплывала: мне захацелася ў вучылішча. Але па конкурсе не прайшоў. Памятаю, тады дырэктар Краснеўскі выклікаў такіх, як я, і сказаў: "Хлопцы, тут перабор. Бярыце дакументы і едзьце ў Віцебск: там без конкурсу вас прымуць". Прынялі. І наш выпуск быў першым на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута. Са мной вучыліся тыя, хто ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва. Найперш Мікола Кірэеў і Фелікс Гумен.

Пасля мяне забралі ў армію. Але мяне турбавала, што я не займеў тое, чаго хацеў. А хацелася вучыцца ў Маскоўскай альбо Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Але папярэдзілі, што безнадзейна — без знаёмства не паступіш. (…)

Пасля войска нейкі час я працаваў у школе №4 у Жодзіне. Жонка туды з малым сынам пераехала. І я пайшоў вучыцца. Конкурс у Тэатральна-мастацкім інстытуце тады быў велізарны: 9 чалавек на месца. Я паступіў да прафесара Івана Ахрэмчыка. У маім лёсе ён адыграў вялікую ролю. Казаў: "Я цябе ганяю, але з цябе толк будзе".

**"НН"**: У 1989 Вы адмовіліся ад звання заслужанага мастака БССР. Творцу яно не патрэбна?

**АМ**: Званне давалі групе мастакоў, і чалавекі тры адмовіліся. Тады толькі фарміравалася наша мастацкая суполка "Пагоня". І мы хацелі зламаць стэрэатыпы, званні. Для рэжыму гэтыя званні патрэбныя, каб прыручыць, каб ад іх залежалі. А хацелася быць свабодным. І пасля на адным са з'ездаў мастакоў была ініцыятыва скасаваць званні "народнага", "заслужанага" — не пазбавіць тых, хто атрымаў, а скасаваць надалей. Толькі адзін чалавек устрымаўся, астатнія прагаласавалі "за". Але ўсё пакацілася па сцежцы былога Савецкага Саюза. (…)

Чыноўнікі не хочуць мяне заўважаць. Навошта я пішу такія карціны? І мае калегі гавораць: пішы кветачкі, ты ж умееш, а не на палітычныя тэмы. Я гэта пішу, бо пра гэта думаецца. А перад палатном — як на споведзі. Гэты негатыў я выплюхваю на палатно.

Вось пра што хачу сказаць. Сёння мастакі стогнуць ад непамернай платы за майстэрні. Я атрымліваю пенсію 3,8 мільёна рублёў, а плаціць трэба амаль 4 мільёны за майстэрню. Добра, што з сынам Ігарам напалам тут працуем і плацім. А многія адмаўляліся ад майстэрняў. Чаму рэлігійныя структуры, найперш праваслаўныя, пазбаўленыя падаткаў, а мы, мастакі, працуем на фронце духоўных каштоўнасцяў, не? Што мы, карціны на той свет возьмем? Застануцца тут.

***

Аляксей Марачкін — мастак, педагог. Творчы псеўданім – Алесь Мара. Нарадзіўся 30 сакавіка 1940 года ў вёсцы Папоўшчына (цяпер Новая Слабада) Чэрыкаўскага раёна. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. Сябра Саюза мастакоў. Заснавальнік мастацкай суполкі "Пагоня". Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Яго пэндзлю належаць палотны "Маці Божая ахвяр Чарнобыля", "Палеская мадонна", партрэты Рагнеды, Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Льва Сапегі. Піша і на палітычныя падзеі ("Навала", "Хрыстос і Антыхрыст", "Какей").

Аўтар паэтычнай кнігі "Калодзеж у жыцце".

*Гутарыў Сяргей Макарэвіч,*
*фота Сяргея Гудзіліна*

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

Як заўжды, беларусы шырока ва ўсім свеце адзначалі Дзень Волі. Прапануем вам агляд таго, як праходзілі святкаванні ў некаторых краінах замежжа.

**Польшча**

Беларусы Варшавы сабраліся 22 сакавіка пад помнікам Тадэвушу Касцюшку, каб адзначыць дзень абвяшчэння БНР. Пасля мітынгу калона беларусаў з бел-чырвона-белымі сцягамі рушыла цэнтральнымі вуліцамі польскай сталіцы.

Гісторык з Магілёва Сяргей Ношка падчас акцыі сказаў: “Гэта вельмі добры знак для беларусаў, тут, у Варшаве, паказаць, што Беларусь – гэта не штосьці на ўсходзе, а таксама дзяржава, якая атрымала сваю незалежнасць нават раней, чым Польшча”.

Падтрымаць беларусаў прыйшлі таксама палякі, украінцы, татары і нават рускія. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел болей за 100 чалавек.

А ў Дзень Волі ў Беларускім доме ў Варшаве сайт “Хартыі-97“ уручыў Нацыянальную прэмію за абарону правоў чалавека імя Віктара Івашкевіча.

Лаўрэатамі прэміі 2014 года ў намінацыі “За асабістую мужнасць“ сталі былыя палітвязні Эдуард Лобаў і Васіль Парфянкоў, а за “Смеласць у творчасці“ рэжысёр Антон Цялежнікаў і спартовец ды музыка Віталь Гуркоў.

Таксама Дзень Волі адзначалі на плошчы каля ратушы ва Вроцлаве, у царкве Агія Сафія ў Беластоку, у II агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім.

**Вільня**

Беларусы Вільні адзначаюць: добрай традыцыяй для іх становіцца тое, што да святкавання Дня Волі далучаюцца прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і з розных краін. Гэтым разам да мерапрыемстваў далучыліся грамадзяне Азербайджана і Алжыра. Святочную праграму ўпрыгожылі скрыпачка – Даля Шашальгене, піяністка – Саўле Лапенайтэ, якія выканалі шматлікія музычныя творы, у тым ліку паланез М. К. Агінскага “Развітанне з Радзімай”. Гасцям паказалі дакументальны фільм “Далёка нам яшчэ да БНР”.

**Флорыда**

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і сакратар па адукацыі Рады Ала Орса-Рамана далучыліся да святочных мерапрыемстваў, арганізаваных суполкай Беларуска-Амерыканскага Задзіночання БАЗА ў Паўднёвай Флорыдзе. Прайшла ўрачыстая канферэнцыя пад назвай “Беларусь: Мы Маем Надзею“. Сакратарка Паўднёва-Флорыдскага аддзела БАЗА Паліна Прысмакова ў сваім выступе распавяла, што наведвала больш за 50 арганізацыяў Гарадзенскай вобласці, мэта якіх – дапамагаць беспрацоўным, пажылым, ветэранам і шматдзетным сем’ям. Паводле вынікаў даследавання, прадстаўнікі недзяржаўных і дзяржаўных арганізацыяў ахвотна ўдзельнічаюць у дабрачынных праектах.

“Свабодная дэмакратычная Беларусь мае надзею на існаванне, пакуль у ёй жывуць такія цудоўныя людзі, — падсумавала Паліна. — Бо калі запытаешся іх, каго яны любяць, адказ будзе: люблю Беларусь! То ўзаемна!“

**Таронта**

Сябры Згуртавання беларусаў Канады адзначалі Дзень Волі 29 сакавіка.

Пасля ўрачыстай багаслужбы і абеду ў сяброўскім коле былі зачытаныя віншаванні, што прыйшлі ў ЗБК з нагоды свята.

Сур'ёзныя і глыбокія гістарычныя лекцыі былі аздобленыя жвавым выступам тарантаўскага спеўнага гурта “Яваровы людзі“.

Па сканчэнні свята сябры яшчэ доўга не разыходзіліся, ведучы гаворку на роднай мове, чаго часам так не стае на эміграцыі.

**Брусель**

25 сакавіка ў Бруселі актывісты Беларуска-Еўрапейскага Задзіночання зладзілі святочны пікет да Дня Волі, які прайшоў пад дэвізам “Разам назаўжды!“ ў знак салідарнасці з братнім народам Украіны. У пікеце ўдзельнічалі і ўкраінцы, якія таксама ўважаюць беларусаў за братні народ і ўдзячныя за салідарнасць у гэты складаны для іх радзімы час.

Пасля пікету беларусы наведалі магілу беларускага кампазітара Міколы Равенскага (аўтара музыкі да духоўнага гімна “Магутны Божа”), дзе ўсклалі кветкі колераў роднага бел-чырвона-белага сцяга і на чале са святаром Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы памаліліся за душы ўсіх барацьбітоў і ваяроў, што змагаліся за волю Бацькаўшчыны.

Падчас пікету былі распаўсюджаныя некалькі сотняў чарговага інфармацыйнага бюлетэня.

**Прага**

25 сакавіка ў Празе актывісты беларускай дыяспары прыйшлі на Альшанскія могілкі, каб ушанаваць памяць прэзідэнтаў Рады БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі. Яны ўсклалі вянкі і кветкі на іх магілы, запалілі свечкі. Алесь Лукашук распавёў пра планы ўпарадкавання могілак прэзідэнтаў БНР, якія даглядае беларуская грамада ў Празе.

Таксама пражскія беларусы і госці з Мінска паклалі кветкі да магілы спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Аляўціна Вячорка прыгадала прыезд спевака ў Берасце і ягоны канцэрт. А Ян Максімюк распавёў, як успрымалі творчасць Забэйды-Суміцкага ў Беластоку.

Напярэдадні Дня Волі, 21 сакавіка, у Беларускай клубоўні адбылася прэзентацыя кнігі Сяргея Навумчыка “Дзевяноста чацвёртыя”, пра якую аўтар распавёў гасцям. Кніга працягвае цыкл, прысвечаны апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэння. Акрамя аўтара, на імпрэзе выступілі аўтар прадмовы да кнігі Аляксандр Лукашук, а таксама Вінцук і Франак Вячоркі.

**Пецярбург**

Беларускае грамадска-культурнае таварыства Санкт-Пецярбурга 25 сакавіка адзначыла Дзень Волі. Вёў урачыстую сустрэчу ў Бібліятэцы нацыянальнасцяў старшыня таварыства Мікола Нікалаеў. Удзельнікі зрабілі даклады аб гісторыі стварэння БНР, абмеркавалі ўмовы, у якіх паўстала Народная Рэспубліка, а таксама прычыны яе паразы.

Акрамя гэтага, сябры Беларускага грамадска-культурнага таварыства абмеркавалі планы аб’яднання. Вырашылі дэталёва распрацаваць маршруты па беларускіх мясцінах Санкт-Пецярбурга. Мікола Нікалаеў паведаміў, што 15 чэрвеня запланаваная штогадовая сустрэча беларусістаў і запрасіў усіх ахвочых зрабіць даклады аб гісторыі беларусаў у Пецярбурзе. Мастак Янка Чарнякевіч запрасіў на сваю выставу, што адбудзецца напрыканцы траўня ў Акадэміі мастацтваў імя Шцігліца.

**Чарнігаў**

Шэсце з лозунгам “Жыве Беларусь” і бел-чырвона-белы сцяг на галоўнай плошчы – так адзначылі Дзень Волі ва ўкраінскім Чарнігаве.

У мерапрыемстве паўдзельнічала каля двух дзясяткаў чалавек. Сярод іх – чарнігаўскія беларусы, ветэраны АТА і прадстаўнікі мясцовай “Самаабароны”.

**Кіеў**

25 сакавіка ў Кіеве Рух салідарнасці “Разам“ пры падтрымцы ўкраінскіх патрыятычных арганізацыяў правёў урачыстую дэманстрацыю ад памятнае дошкі Міхаілу Жызнеўскаму на вуліцы Грушэўскага цераз майдан Незалежнасці да помніка Уладзіміру Караткевічу каля пасольства Рэспублікі Беларусь.

Тут адбыўся невялікі мітынг. Каля сотні ўдзельнікаў спявалі гімн Украіны, а таксама “Мы выйдзем шчыльнымі радамі“ і “Магутны Божа“.

*Паводле матэрыялаў СМІ і ўласнай інфармацыі*

# У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА



22 сакавіка ў Вільні на дзяржаўным узроўні ўшанавалі памяць нацыянальнага героя Беларусі і Літвы Кастуся Каліноўскага.

Мерапрыемства распачалося традыцыйным шэсцем, якое сімвалічна можна назваць, апошнім шляхам Кастуся Каліноўскага. 22 сакавіка 1864 года рускія акупанты вывелі з муроў турмы на вул. Ігната, 11 Кастуся і павялі яго на Лукішскі пляц. Прайсціся апошнім шляхам Кастуся вырашылі не толькі віленчукі, але і шматлікія госці з Мінска, Рыгі, Варшавы і іншых гарадоў. Ля крыжа нас чакала ганаровая вайсковая варта ад імя Міністэрства Абароны Літоўскай Рэспублікі і літоўскія грамадскія і палітычныя дзеячы. Кажа беларускі грамадска-культурны дзеяч у Літве Хведар Нюнька: ”Была ганаровая варта ад літоўскіх вайскоўцаў. Шмат было прадстаўнікоў з літоўскага боку. І я сказаў, што вітаю працяг традыцыі ўшанавання памяці Каліноўскага да сённяшняга дня. Яна становіцца штораз больш багатай. Я б сказаў, што людзей было многа, нягледзячы на тое, што гэта няроўная дата – 151 год. Чалавек 70-100. Было шмат сцягоў – беларускіх, латышскіх, украінскіх”.

Мерапрыемства арганізавалі і правялі: Таварыства беларускай культуры (в.а. старшыні Васіль Акуневіч), Асацыяцыя “Крывія” (старшыня Зміцер Карачун), Беларуская нацыянальная памяць (старшыня Анатоль Міхнавец), Віленскае беларускае таварыства палітычных вязняў і ссыльных (старшыня Валянцін Стэх) і Міністэрства Абароны Літоўскай Рэспублікі.

*Паводле Антона Разумоўскага, “Беларускае Радыё Рацыя”*
*Фота westki.info*

# НОВЫЯ ФІЛЬМЫ ПРА НОСЬБІТАЎ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

У Польшчы выпусцілі новы дыск, куды ўвайшлі два дакументальныя фільмы пра беларускіх дзеячаў з суседняй дзяржавы — Мікалая Бушко і Юрыя Туронка. Фільмы пра іх склалі серыю “Носьбіты культуры”.

Гэта другі дыск, прысвечаны беларускім дзеячам у Польшчы. Летась такі дыск з дакументальнымі фільмамі выйшаў пра беларускага паэта з Беластока Віктара Шведа і беларускага мовазнаўцу, прафесара з Беластока Міхала Кандрацюка.

Шчыры беларус з Гайнаўкі Мікалай Бушко — заснавальнік і дырэктар сусветна вядомага Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, у якім бяруць удзел шматлікія хоры з 15–20 краінаў свету. Мікалай Бушко шмат гадоў быў дырэктарам гайнаўскага Дома культуры. Цяпер ён узначальвае Фонд царкоўнай музыкі і Цэнтр прамоцыі рэгіёна “Чарлёнка” ў Гайнаўцы.

Вядомы гісторык Юры Туронак жыве ў Варшаве. З пачатку 1960-х гадоў займаецца гістарычнымі даследаваннямі нацыянальнага руху пачатку ХХ стагоддзя, беларуска-польскіх дачыненняў у ХХ стагоддзі, гісторыяй Рыма-Каталіцкага Касцёла. У 1986 годзе ў Варшаве абараніў доктарскую дысертацыю “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”. У 2006 годзе свет пабачыла яго вялікая кніга “Мадэрная гісторыя Беларусі”.

Вось пра гэтых беларусаў Польшчы і створаны два фільмы на адным дыску ў серыі “Носьбіты культуры”.

Такія фільмы пра беларускіх дзеячаў і надалей будуць здымацца ў Польшчы і выдавацца на дысках.

*Сяргей Чыгрын, “Новы Час”*

# ТБМ АРГАНІЗАВАЛА КАНФЕРЭНЦЫЮ ПРА МОЎНЫЯ ПРАВЫ

Моўныя правы і іх абарону абмеркавалі ў Мінску ўдзельнікі Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Яна была арганізавана Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Паводле слоў кіраўніка гэтай арганізацыі Алега Трусава, праблема моўных правоў абмяркоўвалася на прыкладах не толькі Беларусі, але і суседніх краінаў. Таму на мерапрыемства былі запрошаны спецыялісты не толькі з Беларусі. Па выніках плануецца выдаць зборнік матэрыялаў.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі рэзалюцыю, у якой адзначылі, што ў некаторых краінах неад’емнае права на карыстанне роднай мовай парушаецца і ігнаруецца. Удзельнікі падтрымалі намаганні сусветнай супольнасці, выкладзеныя ў Канвенцыі ЮНЕСКА і накіраваныя на ахову і заахвочванне разнастайнасці форм культурнага самавыяўлення, у тым ліку і моў.

*Паводле Генадзя Барбарыча, “Беларускае Радыё Рацыя“*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШУЕМ ЯЎГЕНІЮ ГУЛЯЕВУ!



Віншуем з юбілеем шаноўную спадарыню **Яўгенію Вячаславаўну Гуляеву** – адну з заснавальніц Беларускага культурна-асветніцкага таварыства “Уздым“, шчырую беларуску, цудоўнага чалавека, дасведчанага метадыста, аўтара шматлікіх сцэнароў свят, якія праводзіла таварыства, і проста прыгожую жанчыну.

29 сакавіка ёй споўнілася 75 гадоў. Зычым ёй моцнага, непахіснага здароўя, выдатнага настрою, спагады блізкіх і жыццёвай радасці!

*Беларусы таварыства “Уздым“*

# ДЗЕНЬ ВЫЦІНАНКІ Ў ЛОНДАНСКАЙ ШКОЛЕ



У нядзельнай школцы пры Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане 1 сакавіка быў незвычайны дзень – дзяцей вучылі рабіць выцінанкі. Саша Белавокая, прафесійны дызайнер і фатограф, прыйшла падзяліцца сваім хобі. Пакуль дарослыя пілі гарбату пасля нядзельнага богаслужэння, дзеткі з захапленнем вучыліся новаму майстэрству, рабілі з выцінанак паштоўкі на першы дзень вясны і развучвалі новыя словы.

У розныя часы беларуская школа ў Лондане існавала ў розных формах. У 1960-70-х гэта была школа-інтэрнат імя св. Кірылы Тураўскага. У ёй вучыліся толькі хлопчыкі. Яны хадзілі на ўрокі ў суседнюю каталіцкую школу, а ў інтэрнаце ў іх былі дадатковыя заняткі па мове ды іншых беларусазнаўчых дысцыплінах, а таксама яны дапамагалі ў Скарынаўскай бібліятэцы. У 2000-я гады школа стала нефармальнай і адбывалася раз на месяц. Дзеці беларусаў гулялі ў гульні, глядзелі мультфільмы і рыхтаваліся да святаў, напрыклад, Купалля. На Каляды дзяцей бавілі сапраўднай батлейкай, якая мае ўжо шматгадовую традыцыю ў Лондане. Той школай займалася дорктар Караліна Мацкевіч.

У лістападзе мінулага года школа атрымала новае жыццё. Цяпер яна адбываецца штотыдзень у суботы і нядзелі. У школцы ўжо сфармаваліся тры ўзроставыя групы, і ўсімі імі займаецца Наталля Раманчук з Глыбокага. У снежні вучні рыхтаваліся да Калядаў: падрыхтавалі інсцэніроўку ў дадатак да традыцыйнай лялечнай батлейкі. А да Дня роднай мовы, што святкавалі тыднем раней, усе дзеці падрыхтавалі беларускія вершы і спевы. Дзецям беларуская мова не даецца проста, бо многія растуць у мяшаных сем'ях, а англійская мова акружае іх паўсюль. Адраджэнне школы ініцыяваў а. Сяргей Стасевіч, бо ён, як і многія іншыя беларусы ў замежжы, клапоціцца, каб дзеткі, якія растуць далёка ад Бацькаўшчыны, мелі шанец ведаць родную мову і культуру. Школа існуе на дабрачынныя ахвяраванні. Да яе могуць далучыцца і дзеці, і дарослыя. Са школай можна скантактавацца па электроннай пошце: **editor@belarusian.co.uk.**

*Ігар Іваноў, belarusians.co.uk*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КРАСАВІК 2015 ГОДА

1 красавіка – 75 гадоў таму ў саратаўскай турме памёр Язэп Лёсік (1883-1940), грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменнік, педагог.

2 красавіка – 20 гадоў таму памёр Пімен Панчанка (1917-1995), народны паэт Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

3 красавіка – 35 гадоў таму ў Стэмфардзе (Канектыкут, ЗША) памёр Леанід Галяк (1910-1980), юрыст, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

10 красавіка – 115 гадоў таму ў в. Багацькаўка (цяпер Мсціслаўскі р-н) нарадзіўся Гаўрыла Гарэцкі (1900-1988), геолаг, географ, эканаміст, дэмограф, дзеяч нацыянальна-культурнага руху.

14 красавіка – 130 гадоў таму ў в. Максімаўка (цяпер Маладзечанскі р-н) нарадзіўся Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885-1938), грамадска-палітычны дзеяч, сябра Рады БНР, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920-1922 гг.).

15 красавіка – 115 гадоў таму ў в. Вялікія Азяранкі (цяпер Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Тамашчык (у манастве Васіль; 1900-1970), праваслаўны святар, архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы на эміграцыі.

16 красавіка – 75 гадоў таму памёр Адам Багдановіч (1862-1940), этнограф, гісторык культуры, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча. Пахаваны ў Яраслаўлі.

20 красавіка – 105 гадоў таму памёр Сяргей Палуян (1890-1910), публіцыст, празаік, літаратуразнавец, крытык. Пахаваны на Байкаўскіх могілках у Кіеве (Украіна).

21 красавіка – 180 гадоў таму, у 1835-м, у Віцебску нарадзіўся Ялегі Пранціш Вуль (сапр. Элегі Карафа-Корбут), паэт, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Памёр у Варшаве, Польшча (1880-я гг.).

22 красавіка – 10 гадоў таму ў Лондане (Антарыя, Канада) памёр Барыс Рагуля (1920-2005), палітычны і вайсковы дзеяч, сябар ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і Канадзе.

24 красавіка – 20 гадоў таму памёр Міхась Зуй (1909-1995), грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (1987-1995 гг.). Пахаваны на беларуска-ўкраінскай секцыі могілак Роквуд у Сіднеі (Аўстралія).

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986 г.).

27 красавіка – 70 гадоў таму, у 1945-м, Беларусь прынята ў склад сябраў-заснавальнікаў ААН.

28 красавіка – 115 гадоў таму ў Кушлянах (цяпер Смаргонскі р-н) памёр Францішак Багушэвіч (1840-1900), паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Пахаваны ў Жупранах (цяпер Ашмянскі р-н).

29 красавіка – 25 гадоў таму ў Лаймене (Бадэн-Вюртэнберг, Нямеччына) памёр Юры Попка (1912-1990), грамадскі дзеяч, выдавец, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

## ”У ВІРЫ БЫЦЦЯ“ – НОВАЯ КНІГА ЭСЭІСТЫКІ НІЛА ГІЛЕВІЧА




У Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве ”Кнігазбор” пабачыў свет эсэістычны зборнік Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. У кнігу ўвайшлі запісы розных гадоў, кожны з якіх прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, культуры, літаратуры.

Асобныя творы друкаваліся ў часопісе ”Дзеяслоў“ і газеце ”Літаратурная Беларусь“, многія прадстаўленыя ўпершыню.

Ніл Сымонавіч Гілевіч — Заслужаны дзеяч навукі Беларусі, Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, прафесар. Паэт, перакладчык, драматург, фалькларыст, літаратуразнаўца.

У кнізе змешчаныя ўспаміны пра значныя падзеі грамадскага і культурнага жыцця, адлюстраваныя рэфлексіі пісьменніка, яго бачанне мінулага, цяперашняга і будучыні роднай краіны.

Значнае месца на старонках новага выдання адведзенае апісанню і аналізу прачытанай літаратуры, айчыннай і замежнай, сучаснай і даўняй. Ніла Сымонавіча як чытача і даследчыка цікавяць тэндэнцыі і гісторыка-культурныя перадумовы стварэння тых або іншых кніг.

Але ж, нягледзячы на суплёт пакуль не вырашаных сацыяльных і культурных праблем, на якія ўказвае і з-за якіх перажывае Народны паэт, у кнізе ”У віры быцця“ адчуваецца подых вясны, надзеі, аптымізму на добрую будучыню беларусаў і Беларусі.

*Паводле lit-bel.org*

## ПЛАНУЕЦЦА ПЕРАВЫДАННЕ КНІГІ ”МАЁ МЯСТЭЧКА“ ВАСІЛЯ СТОМЫ

Збіраюцца сродкі на перавыданне кнігі ўспамінаў Васіля Стомы “Маё мястэчка“.

Аўтар нарадзіўся ў Лужках былога Дзісенскага павета, у часе Другой сусветнай працаваў у беларускай адміністрацыі, а пасля разам з маці і сястрой праз Нямеччыну апынуўся ў ЗША. Васіль Стома быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання ў Нью-Джэрсі, сябрам Рады БНР, парафіянінам царквы Жыровіцкай Божай Маці, выкладчыкам у беларускай суботняй школцы.

У вольны ад працы ў шавецкай майстэрні час Васіль Стома згадваў пра абрады й звычаі Дзісеншчыны, складаў слоўнічак тамтэйшага дыялекту, а таксама пісаў успаміны. Асноўны змест апошніх – аповед пра дзяцінства й юнацтва ў Лужках, пра само мястэчка. Каларытныя характары звычайных жыхароў, з гумарам пададзеныя падзеі штодзённага жыцця.

Прадстаўленыя Стомам Лужкі — мястэчка, дзе нарадзіўся “адраджальнік” іўрыту Эліэзэр Бэн-Егуда. Сярод згаданых ва ўспамінах ёсць а. Язэп Германовіч, вядомы доктар Усевалад Шыран, святар Іван Кушнер, жонка Станіслава Булак-Балаховіча.

Успаміны маюць аўтарскія і рэдакцыйныя каментары. У кнізе змешчаны невялікія згадкі пра аўтара, запісаныя ў часе інтэрв’ю з беларускімі родзічамі Васіля Стомы. Дадаткам — здымкі з сямейнага архіва, а таксама выявы сучаснага выгляду Лужкаў, тых будынкаў, пра якія ідзе аповед.

Больш падрабязна пра перавыданне: **http://kniger.by/coupon/mae-myastechka.**

*Паводле “Нашай Нівы”*

## АБВЕСТКА

Нагадваем, што працягваецца **збор сродкаў на помнік Рыгору Барадуліну.** Пералічыць грошы можна на дабрачынны рахунак, адкрыты на імя яго ўнучкі:

**ААТ “Беларусбанк” філіял 514 код 614 УНП 100420097**

**код віда ўклада 9004 (дамова дабрачыннага рахунка №000039)**

**атрымальнік Кліміна Дамініка Канстанцінаўна**

**прызначэнне плацяжа - добраўпарадкаванне пахавання**

Ажыццявіць плацёж можна ў любым аддзяленні банка і таксама з дапамогай інфакіёскаў і Інтэрнэт-банкінга (выбраць - “Плацяжы”, - “Адвольныя плацяжы”, - “плацёж па рэквізітах” – нумар транзітнага рахунка **3819382102369**).

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“*

## ПРА ШТО ПІСАЎ НАЦЫЯНАЛІСТ ЯНКА ФІЛІСТОВІЧ СВАЯКУ Ў АЎСТРАЛІЮ?

Выйшаў 37-мы том альманаха-штогодніка ”Запісы БІНІМ”. Ён прысвечаны тром асноўным тэмам: ”Біяграфіі”, ”Беларусы ў Францыі”, ”Пражскія беларусы”.

Наталля Гардзіенка апублікавала вялікі (на 250 старонак) біяграфічны даведнік ”Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі“. (Большы ўхіл на дзеячаў беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі: Наталля напісала асобныя кнігі пра беларусаў у гэтых краінах).

Друкуюцца лісты нацыяналіста Янкі Філістовіча да Міколы Скабея. Паводле публікатараў, Філістовіч да сваяка ў лістах быў больш адкрыты.

Павел Котаў напісаў пра беларускія месцы ў Празе. Публікуюцца і фота гэтых мясцін, а таксама карта. Макс Шчур апублікаваў мастацкі твор ”Упырхлікі”.

У томе змешчаны адзінаццаць выступленняў з 4-га Кангрэса даследчыкаў Беларусі, які летась праходзіў у Коўне (Літва). На кангрэсе працавала секцыя ”Беларускае замежжа і памежжа ў гісторыі і сучаснасці“.

”Запісы БІНІМ (Беларускага інстытута навукі і мастацтва)” былі заснаваныя ў 1952 г. у ЗША. Ад 2001 г. (№ 25) ”Запісы БІНІМ“ — сумесны мінска-ньюёркскі праект.

*Паводле “Нашай Нівы”*

## ВЫЙШАЎ ДЗЯВЯТЫ НУМАР ЧАСОПІСА “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”

Пытанням нацыянальнага будаўніцтва прысвечаны артыкулы Нэлі Бекас “Гібрыдная” самабытнасць мовы постсавецкай Беларусі”, дзе абмяркоўваюцца лінгвістычныя мадэлі беларускай ідэнтычнасці, Пётры Мурзёнка “Які нацыяналізм патрэбен Беларусі” і частка дыскусіі “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасць – 2014”, праведзенай часопісам летась. У секцыі літаратуры змешчаны апавяданне-памфлет Аляксандра Згерскага “Чароўны флікер”, дзе супастаўляецца сюррэальнасць і рэчаіснасць у сучаснай Беларусі, і нарыс Галіны Туміловіч “Оттавская рапсодия (или жизнь на границе)” пра ўражанні ад першых гадоў жыцця ў Канадзе.

У раздзеле “Юбілеі” - матэрыялы, прысвечаныя патрыётцы Беларусі Алесі Умпіровіч і вядомай пісьменніцы Вользе Іпатавай.

Часопіс працягвае працу ў рамках праекта “РАЗАМ”, пашырыў аб’ём матэрыялаў, скіраваных на асвету насельніцтва Беларусі.

Часопіс па-ранейшаму чакае ад чытачоў карысных прапаноў і актыўнага ўдзелу.

*Паводле Пётры Мурзёнка*

## КІРМАШЫ ПРАЕКТАЎ У МАГІЛЁВЕ І БЕРАСЦІ

У сакавіку кампанія "Будзьма беларусамі!" наведала Магілёў і сёлетнюю Культурную сталіцу – Берасце, дзе правяла "Кірмашы праектаў", на якіх сваё меркаванне маглі выказаць як спецыяльна запрошаныя эксперты, так і кожны прысутны.

У Магілёве ўсе прадстаўленыя крэатыўныя ідэі былі аб'яднаныя аднойтэмай: як палепшыць гарадскую прастору горада, зрабіць яго прывабным для турыстаў і жыхароў і якое месца ў гэтым займае гісторыя і культура. Аўтары адразу трох ідэй, не згаворваючыся, прадставілі праекты пра магілёўскую Трыумфальную арку і страчаны за саветамі архітэктурны помнік — Іосіфаўскі сабор. Таксама былі праекты па добраўпарадкаванні раёна, па змене назвы прыпынку грамадскага транспарту каля Тэатра лялек (цяпер гэта "Плошча Леніна") і правядзенні фестывалю "Гарадскі пікнік".

Адзін з галоўных навыкаў, які ўжо маюць магілёўцы, — гэта ўсведамленне, што задачы самі сабой не вырашаюцца. Дзеянне, а не чаканне — шлях да паляпшэння і ўзбагачэння культурніцкага жыцця горада. Мы бачым тут аптымізм і ўпэўненасць у вачах. І, што найбольш важна, — у Магілёве апантаныя сваім горадам культурніцкія актывісты здольныя згуртоўвацца і самаарганізоўвацца: "Цэнтр гарадскіх ініцыятываў" з'явіўся пасля таго, як "Кірмаш праектаў" падштурхнуў цікавых людзей да публічнай прэзентацыі сваіх ідэй і прадэманстраваў, што можна дабіцца выніку, калі дзейнічаць разам. Літаральна за апошнія паўтара года ў Магілёве былі рэалізаваныя адметныя задумы — "Палатно гісторыі ў стылі графіці", "Зялёныя святкі", "Паэзія ў метро", "Мастацтва на колах".

"Праявіце ген культурных перамог!" – з такім заклікам распачалася прэзентацыя крэатыўных ідэй у берасцейскай "Грунтоўні". Увазе публікі былі прадстаўленыя пяць праектаў. Сярод іх – культурна-адукацыйны праект "Гісторыя Берасця для чайнікаў", праект пра бацькоўства, выхаванне і моцную сям'ю "Бацькі. BY", стрыт-арт-праект у гонар абаронцаў Брэсцкай крэпасці, праект "Клуб універсальных журналістаў", а таксама праект "Ёгурт", пакліканы аб'яднаць берасцейскія музычныя гурты і паказаць іх жыхарам горада.

*Паводле budzma.by*

## АБВЕШЧАНЫ КАРОТКІ СПІС ПРЭМІІ ІМЯ АЛЯКСАНДРА І МАРЫІ СТАГАНОВІЧАЎ

31 сакавіка журы вызначыла кароткі спіс Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў, у які ўвайшлі (па алфавіце):

1. Дубавец, Сяргей. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. Радыё Свабода, 2012.
2. Кісялёў, Генадзь. Смак беларушчыны. Мінск: Лімарыус, 2013.
3. Крэпак, Барыс. Вяртанне імёнаў: нарысы пра мастакоў. У 2 кн. Мінск: Мастацкая літаратура, 2014.
4. Навумчык, Сяргей. Дзевяноста першы. Год незалежнасці вачыма ўдзельніка. Радыё Свабода, 2013.
5. Някляеў, Уладзімір. Знакі прыпынку. Мінск: Лімарыус, 2013.
6. Федарэнка, Андрэй. Сечка. Мінск: Галіяфы, 2012.




7. Шапран, Сяргей. Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо сам-насам з Барадуліным. Мінск: Логвінаў, 2011.

Прэмія будзе ўручаная за кнігі, надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове ў перыяд 2011—2014 гг.

Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэнні прэміі выступаюць: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", выдавецтва "Лімарыус".

Пераможцы будуць абвешчаны 22 красавіка.

*Аргкамітэт прэміі*

## ДЫЗАЙНЕРЫ ФЕСТЫВАЛЮ POST SCRIPTUM АТРЫМАЛІ АДКАЗ НА СВАЕ ПАШТОЎКІ

Цэлы вялікі фестываль у падтрымку адной маленькай рэчы, якая сёння паступова знікае з нашага ўжытку, зладзіў Беларускі саюз дызайнераў сумесна з кампаніяй "Будзьма беларусамі!". Пра беларускую паштоўку тут можна было даведацца практычна ўсё, пабачыць розныя яе ўзоры ды навучыцца маляваць уласнаручна на разнастайных майстар-класах. А 7 сакавіка ў Музеі гісторыі беларускага кіно назвалі найлепшых дызайнераў паштовак, якія даслалі свае працы на конкурс.

Журы конкурсу ў літаральным сэнсе стала адрасатам каля 200 паштовак ад блізу 40 аўтараў розных пакаленняў. Сярод іх маладыя дызайнеры, якія і раней працавалі ў гэтым жанры, і навічкі, якія толькі зрабілі першыя напрацоўкі, што яшчэ не маюць друкаванага ўвасаблення.

Кампанія "Будзьма беларусамі!", якая падтрымала фестываль, абрала трох найлепшых аўтараў. Яны атрымалі ў падарунак кнігі і, галоўнае, магчымасць у будучыні рэалізаваць свае праекты. Алена Макоўская, каардынатарка кампаніі, сказала: "Першы фестываль беларускай паштоўкі – гэта сапраўды з'ява і вельмі годны пачатак. Беларуская паштоўка жыве, і выстава яскрава гэта дэманструе".

Увогуле ж журы вызначыла цэлы спіс аўтараў, паштоўкі якіх выклікалі сімпатыі. Усе яны атрымалі гадавы абанемент на бясплатнае наведванне Нацыянальнага гістарычнага музея. Глядацкія ж сэрцы растапіла паштоўка Волі Кузьміч з маляваным катом у швэдары.

*Паводле Аляксандры Дорскай, budzma.by*

## АБВЕСТКІ

У мінулым нумары ў "Календары памятных дат" была дадзеная памылковая дата нараджэння Хведара Ільяшэвіча. Насамрэч ён нарадзіўся 17 лютага. Дзякуем спадарыні Лене Глагоўскай, якая звярнула на гэта ўвагу, а таксама прыносім выбачэнні чытачам.

*

Чытайце артыкул Наталлі Гардзіенка "Стагановічы: успаміны з жыцця і жыццё ўспамінаў" на нашым сайце:

**zbsb.org/node/9648.**

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (155), сакавік 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27